ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№9 снежань 2011 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны



## Знайсці дарогу да храма...

**4 снежня віцебскую парафію святой Барбары з візітацыяй наведаў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін. На гэты фэст прыбылі і прадстаўнікі іншых віцебскіх парафій – Езуса Міласэрнага, Святога Духа і Святога Антонія. Парафія Святой Барбары была першай і адзінай віцебскай парафіяй у 1990-ыя гг. і ў той час аб'ядноўвала ўсіх вернікаў горада, а касцёл Святой Барбары да чэрвеня гэтага года быў кафедральным.**

■ **Кацярына Лаўрыненка**, *фота аўтара*

Біскупа прывітаў пробашч парафіі айцец Міхал Ермашкевіч OP, і хлебам-соллю сустрэў старшыня парафіяльнай рады Сяргей Васількоў. У сваёй прамове ён падзякаваў за ўсё тое, што Уладзіслаў Блін зрабіў для парафіі і касцёла. А маленькая парафіянка Вераніка падарыла біскупу ружу, якую ён, у сваю чаргу, ахвяраваў Маці Божай. На пытанне, з кім яна прыйшла ў касцёл, Вераніка адказала: "З мамай і татам". Безумоўна, можна толькі парадавацца за маленькую Вераніку, якую менавіта бацькі прывялі ў касцёл.

Падчас візітацыі ў парафіі біскуп цэлебраваў дзве імшы, каб сустрэцца з найбольшай колькасцю парафіянаў. Першую імшу для дзяцей разам з іерархам канцэлебраваў айцец Кшыштаф Коц'ян OP. У часе гаміліі біскуп Уладзіслаў у простай і даступнай форме выклаў для маленькіх парафіянаў кароткую гісторыю збаўлення. Асабліва ён спыніўся на гісторыі нараджэння Езуса, прышэсця якога мы ўсе чакаем. Затым дзеці з задавальненнем адказвалі на пытанні, што датычыліся гаміліі.

Пасля імшы маленькіх парафіянаў чакаў сюрпрыз: да іх завіталі ў госці "святая Барбара" і "святы Мікалай". Біскуп жартаўліва распытаў "святую Барбару" і "святога Мікалая" пра іх дзейнасць. Зразумела, "святы Мікалай" прыйшоў да маленькіх парафіянаў з падарункамі, якія і раздаў дзецям, што дадаткова парадавала іх. Пры гэтым пробашч парафіі айцец Міхал Ермашкевіч OP нагадаў, што ў касцёл мы прыходзім не па падарункі, але дзеля таго, каб рыхтавацца да вечнага святкавання з Панам Богам у небе.

Падарунак атрымаў і біскуп Уладзіслаў. Парафіянка Ала Пяцікава, прадстаўніца парафіяльнага Легіёну Марыі, падарыла яму вышыванку з выявай святога Язафата, Апекуна Віцебскай дыяцэзіі.

Святую Імшу разам з біскупам канцэлебравалі пробашч касцёла айцец Міхал Ермашкевіч OP і айцец Раман Шульц OP. У гаміліі біскуп заклікаў усіх звярнуцца да прыкладу Марыі. "Даведаўшыся, што чакае нараджэння Збаўцы, яна больш маўчала і малілася. Ці мы сапраўды ўмеем маўчаць? Ці падчас Адвэнту мы больш молімся? Мы павінны памятаць, што мы часова на гэтай зямлі", – казаў пастыр дыяцэзіі. Ён распавёў пра аднаго старога чалавека, які звярнуўся да біскупа. Той сказаў, што і не заўважыў, як каля яго дома вырас касцёл. Цяпер ён ужо не можа выходзіць з дому, таму ў нядзелю глядзіць у акно на тых, хто ідзе ў касцёл. Біскуп працягваў: "Яны знайшлі сваю дарогу да Бога, да храма. Адвэнт гэтага старога чалавека таксама пачаўся, ён яшчэ паспее. Я рады, што ў яго сэрцы будзе Божае Нараджэнне". Таксама біскуп заклікаў, каб наша вера была больш раданснай і дапамагала нам перамагаць нашыя грахі.

На заканчэнне візітацыі іерарх звярнуўся да парафіянаў: "Хрыстус жадае ад нас аднаго: каб мы ішлі і абвяшчалі Божае слова. Гэта нашае заданне. І не толькі праз святыя сакраманты, але перадусім праз цудоўнае святое жыццё. І я жадаю, каб вы заўсёды былі шчаслівыя з Богам. Бог нас любіць. Ён ніколі нікога не пакінуў... Дзякуй Богу, што мы ўзрастаем у веры. Гэта важна не толькі для кожнага з нас, але і для выратавання свету. Толькі нашае добрае жыццё і малітва ратуюць гэты свет".

## Божае Нараджэнне 2011

*Бог любіць кожнага і заўсёды. Прагне нам дапамагчы. Хоча нам даць неба. Чалавек бачыць, як людзі ў нядзелю ідуць памаліцца ў касцёл. "Яны знайшлі дарогу да Бога. А што са мной?" - думае ён.*

*Паслухай, Бог заўсёды сярод людзей. Я не сумняваюся, што толькі ад нас саміх, ад нашага жадання залежыць, ці народзіцца Езус у кожным з нас, ці застанецца з намі.*

*Моцна вас люблю. Малюся за вас. Малюся за нашу Беларусь. І сардэчна благаслаўляю.*

*У імя Айца, і Сына, і Духа Святога.*

*Біскуп Віцебскі*
*Уладзіслаў Блін*

## "Андрэйкі" ў Варапаеве



**26 лістапада 2011 г. у парафіі Святога Міхала Арханёла ў Варапаеве (Пастаўскі дэканат) адбыліся "Андрэйкі".**

■ **с. Марына Брылёнак**

Перад пачаткам Адвэнту, напярэдадні раданснага чакання нараджэння Езуса Хрыста сабраліся вучні з шостых – дзявятых класаў, каб супольна перажыць гэты апошні вечар звычайнага перыяду. На спатканне прыехалі таксама дзеці з парафіі Святой Тройцы з Дунілавіч. Дзякуючы гэтаму стала яшчэ цікавей, бо былі новыя знаёмствы, новыя займальныя гісторыі.

Сустрэча распачалася біблійнай віктарынай, на якой трэба было выявіць усе свае рэлігійныя веды: пачынаючы ад стварэння свету і заканчваючы пытаннямі з Новага Запавета. Таксама былі патрэбныя веды пра Айца Святога і шмат іншага. Хоць часам траплялася досыць складаныя пытанні, але праходзіла віктарына радасна і ў атмасферы ўзаемнай любові. Пасля падвядзення вынікаў і ўзнагароджвання распачаліся забавы і, канешне ж, дыскатэка.

Гэтая сустрэча перад Адвэнтам прынесла шмат радасці дзецям, яшчэ больш з'яднала іх паміж сабой, адкрыла сэрцы для новых знаёмстваў, для новых сяброў і, безумоўна, дапамагла аднавіць свае рэлігійныя веды, што і павінна паспрыяць добраму перажыванню гэтага цудоўнага часу падрыхтоўкі да Божага Нараджэння.




# Когда кажется, что жизнь теряет свой смысл


Семья Захаровых

**Есть люди, которые спасают другие жизни, рискуя своей. Есть люди, которые посвятили свою жизнь помощи тем, кто в этом нуждается. Есть те, кто совершает подвиги каждый день, оставаясь вместе с теми, кто после какой-либо трагедии, лишившись здоровья, никому больше не нужен. Это, я думаю, действительно подвиги, потому как, что может быть труднее ежедневной изнурительной работы, которая заключается в постоянной опеке того, кто, возможно, уже никогда больше не будет ходить, разговаривать или даже вставать?**

**Сергей Ломачевский**

Каким же сильным нужно быть, чтобы отказаться от своих желаний, перспектив, мечтаний ради одного-единственного человека, который уже никогда не будет таким, каким его когда-то знали и любили! Эти люди остались верными себе, своим обещаниям. Эти люди – пример величайшего человеколюбия и милосердия. Их жизнь – проявление настоящей, безграничной любви, вечной любви. В них можно увидеть самого Бога.

Эти люди уже вошли в историю человечества, став примером лучших его качеств. На таких людях держится весь мир. Они дают надежду не только тем, кому подставляют своё плечо, но и многим другим, кто пал духом...

Жизнь семьи Захаровых из Новополоцка резко изменилась около семи лет назад. Обычным июньским вечером их старшая дочь, пятнадцатилетняя Дина, отправилась с подружкой гулять по городу. Так случилось, что водитель проезжавшего мимо автомобиля не заметил двух девочек, переходивших проезжую часть по пешеходному переходу. И Дина, находившаяся всего лишь в полушаге от своей подруги, попала под колёса машины. От полученных травм она впала в кому, в которой находится по сей день.

Её подруга не пострадала, а Дину после семи месяцев лечения в больнице забрали домой, где за ней ухаживает её семья. Горе заставило сплотиться её отца Сергея, мать Елену и младшую сестру Аню. После ДТП к Захаровым пришёл и сам виновник трагедии – водитель того самого автомобиля, который сбил Дину. Он задал вопрос: «Что мне делать?». Родители девочки посоветовали ему пойти к исповеди.

Результатом этого поворотного момента в истории семьи стало не только укрепление уже, быть может, ослабевающих супружеских уз, но и становление на пути к Богу. В эти трудные для всех минуты люди поняли, что Единственный, Кто может спасти от полного отчаяния, – только Бог. Только Тот, для которого нет ничего невозможного, только Тот, Кто может дать силы жить тогда, когда этих сил уже больше нет.

Пришло время, когда Елена и Сергей почувствовали, что должны стать настоящей, полноценной семьёй. Уже уходя, они сообщили Дине, что решили обвенчаться. На глазах дочери появились слёзы – для неё это также стало очень важным событием.

Со временем Елена поняла, что не сможет одновременно работать и ухаживать за дочерью, поэтому приняла решение посвятить всё своё время любимой девочке. Бремя кормильца семьи целиком легло на плечи Сергея. Но теперь это были уже не тот Сергей, и не та Елена, что раньше. Доверие Богу и желание принимать Его волю воспитали в них сильный дух, который уже не сломить теми житейскими проблемами и заботами, зачастую убегая от которых, многие решают свести счёты с жизнью. Все семь лет эти люди верят, что однажды их дочь встанет с кровати, к которой она прикована. Все семь лет Елена и Сергей верят, что, несмотря на мнения врачей, позицию других людей, знающих эту историю, несмотря ни на что, Бог, имеющий власть делать невозможное возможным, исполнит их самое заветное желание.

Эта семья своим примером подняла дух, а быть может, кого-то и спасла из числа тех людей, которые опустили руки перед трудностями, не найдя выхода из тяжелых ситуаций. Став ярким свидетельством твёрдой веры в достижение своей цели, надежды на помощь Всемогущего и бескорыстной и чистой любви, которая исцелила их самих, они помогли многим открыть глаза на свою жизнь.

...Люди! Вы считаете, ваши проблемы не решаемы? Вы думаете, что на ваших плечах непомерная ноша? Вы уверены, что не выдержите этот трудный путь, что Бог ошибся, возложив на вас слишком тяжёлый крест?...

Елена, Сергей и Аня не задаются такими вопросами. Они просто живут тем, что дал им Бог, принимая Его волю и следуя ей.

Семья Захаровых не является какой-то особенной. Это обыкновенные люди, такие же, как и все, живущие в таком же городе, в таких же условиях, с такими же проблемами, как и мы с вами. Но их уникальность в том, что в этом изнеженном комфортом «цивилизованном» обществе, не умеющем терпеть, ждать, жертвовать, верить, надеяться и любить, они терпят, ждут, жертвуют, верят, надеятся и любят.

Это сенсация? Отнюдь. Это трудно? Неимоверно. Но только таким трудом можно обрести самого себя, понять, что такое жизнь, найти живого Бога. От нас не требуется двигать горы или спасать человечество – мы должны лишь принимать то, что происходит в нашей жизни.

В нашей жизни нередки подобные истории. Некоторые искренне удивляются такой силе духа, другие понимают, что настоящая любовь – это не слова и не красивые поступки. Это образ жизни, это смысл нашего существования, это то, что остаётся, когда заканчиваются все слова, умолкает веселье, падают маски… Быть может, наша любовь проявится в кусочке хлеба для тех, кто голоден, в небольшой сумме денег тем, кто не может позволить себе купить что-нибудь из необходимой одежды, в приюте для того, кого уже никто не ждет. А может, кто-то почувствует любовь в наших дружеских объятиях или просто молчаливом присутствии рядом в трудную минуту, увидит её в наших глазах, когда мы протягиваем руку помощи. И даже когда вся эта помощь ограничится лишь искренним сочувствием, мы должны помнить: огромную силу имеет наша молитва, ведь именно через неё мы позволяем Богу действовать не только в жизни того, за кого молимся, но и в нашей собственной.

## Вясёлых Калядаў і Шчаслівага Новага Году!

*Дарагія сябры, шчыра віншуем усіх Вас са Святам Божага Нараджэння! Няхай Бэтлеемская зорка асвятляе Ваш зямны шлях, а Маленькі Езус Благаслаўляе. Выказваем шчырую ўдзячнасць усім, хто быў з намі ў 2011 годзе, а таксама нашым ахвярадаўцам за падтрымку. Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў, мы можам друкаваць газету. Свае ахвяраванні нам даслалі: Яніна Ткачова, г.п. Бягомль; Баляслава Барэйка, в. Барсукі; Ядвіга Пупкевіч, в. Барсукі; кс. Андрэй Кулік, г.п. Падсвілле; вернікі з парафіі ў Крулеўшчыне; вернікі з парафіі ў Порплішчы; Марыя і Уладзімір Тупека, в. Дзеркаўшчына.*

*За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.*

*Дарагія сябры, памажыце нам абвяшчаць Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў альбо ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Са Святам усіх Вас!*

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Бананы на хуткасць
### або як весела распачаць Адвэнт?

**Ужо два гады запар Глыбоцкая парафія "Святой Тройцы" збірае на "Андрэйках" каталіцкую моладзь з розных дэканатаў, каб разам скончыць Літургічны год і распачаць Адвэнт.**

**Каця Малей**

"Андрэйкі" – гэта не проста апошні дзень перад радасным Чаканнем Нараджэння Збаўцы, дзе мы весела праводзім час. Гэта яшчэ і цудоўная магчымасць бліжэй пазнаць Пана Бога.

Сёлета хлопцы і дзяўчаты з Глыбокага, Дзеркаўшчыны і Празарок сустрэліся, каб яшчэ раз даказаць, што вера – гэта моцная сіла, якая натхняе, абуджае, надае сэнс жыццю. Гульні, вікторыны, танцы, музыка – усё гэта стварала прыемную і сяточную атмасферу. Мы расказвалі пра сябе, складалі пытанні і давалі на іх адказы, парадзіравалі жывёл і нават елі на хуткасць бананы – адным словам, сумаваць не даводзілася.

Вольга Валынец і Марына Сінкевіч, якія падрыхтавалі гэтую праграму, стварылі ўсе ўмовы для цікавага і карыснага правядзення часу. У сваёй прамове кс. Мечыслаў Янчышын, арганізатар мерапрыемства, заклікаў з "адкрытымі сэрцамі" пражыць гэты перыяд, знайсці адказы на актуальныя пытанні. Ён таксама падкрэсліў, што Адвэнт – гэта не толькі адмова ад ежы і забаў, у першую чаргу, гэта пераасэнсаванне свайго жыцця і паводзін, час, калі можна зрабіць "работу на памылкамі"…

Спеў і супольная малітва сталі апошнім акордам "Андрэек".

# Урок пра Езуса

**Катэхеза ў каталіцкім Касцёле мае вельмі важнае значэнне. Увесь час распрацоўваюцца дакладная праграмма навучання і метады яе рэалізацыі. Абнаўляюцца матэрыялы, з'яўляюцца новыя дапаможнікі. Адным словам, ідзе праца ў кірунку развіцця катэхізацыі.**

■ **с. Марына Брылёнак**

Амаль у кожнай парафіі зараз сістэматычна праводзяцца заняткі для дзяцей рознага ўзросту, падчас якіх яны маюць магчымасць пазнаваць Божае Слова, сваю веру, а самае галоўнае – пазнаваць Езуса.

Нягледзячы на ўсе намаганні Касцёла данесці Добрую Навіну Хрыста да кожнага дзіця, паказаць сапраўдныя каштоўнасці маральнага жыцця і сяброўства з Ім, якое сучасны свет прагне заглушыць, усё роўна галоўную ролю адыгрываюць бацькі. Малады чалавек, шукаючы сваё месца ў гэтым заблытаным свеце, бярэ прыклад з бацькоў, бо яны з'яўляюцца для яго галоўным аўтарытэтам. І калі бацькі пакажуць сваю веру дзецям, тую вартасць, якую Бог мае ў жыцці чалавека, калі прыйдуць разам з імі да святыні ў нядзелю і будуць дбаць пра іх рэгулярныя заняткі на катэхезе, то вядома, што такія дзеці пабудуюць сваё жыццё на моцным камені – на Езусе. І ніякія жыццёвыя хвалі не змогуць потым пахіснуць іх.

У сучасным свеце можна з лёгкасцю заўважыць адрозненне ў рэлігійным выхаванні дзяцей і моладзі, якія ўдзельнічаюць у катэхізацыі, і іх бацькоў, якія не мелі магчымасці паглыбляць свае рэлігійныя веды. Часта дзеці дзеляцца дома пачутым на занятках, дзякуючы чаму і старэйшыя могуць бліжэй пазнаць свайго Збавіцеля.

Менавіта тэма катэхізацыі дарослых і была прапанавана для дыскусіі на дэканальным спатканні катэхетаў, якое адбылося 18 лістапада ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Паставы, Віцебская дыяцэзія). На запрашэнне кс. дэкана Андрэя Возняка на сустрэчы прысутнічалі кс. доктар Уладзіслаў Мрувка, старшыня катэхетычнага аддзела ў Віцебскай дыяцэзіі, а таксама катэхеты Пастаўскага дэканата. Мерапрыемства распачалося адкрытым урокам – катэхезай, якая была праведзена з групай дзяцей, каторая ў гэтым годзе рыхтуецца першы раз прыняць Езуса ў свае сэрцы. Заняткі праходзілі на тэму " Беражом жыццё сваё і іншых", дзеці разважалі над тым, што азначае пяты Божы загад – не забівай.



Пасля ўрока кс. доктар Уладзіслаў Мрувка прадставіў прысутным катэхетам метады правядзення заняткаў. На заканчэнне было пастаўлена пытанне аб катэхізацыі дарослых. Падчас дыскусіі кожны выказаў сваю думку на гэтую тэму. Але прагучала аднназначная высnова, што дарослыя таксама патрабуюць паглыблення рэлігійных ведаў. І ў гэтым кірунку трэба працаваць.



# Дзень Святога Мікалая ў Сястронках

**6 снежня, у дзень, калі Касцёл успамінае Св. Мікалая, полацкія вернікі, у тым ліку і моладзь, наведалі шпіталь у Сястронках. Тут знаходзяцца людзі сталага веку, некаторыя – да канца свайго жыцця, а нехта яшчэ мае магчымасць на пэўны час паехаць да сваіх родных або дзяцей, якіх, на жаль, бачаць вельмі рэдка.**

■ **с. Святлана Грэйць**, *тэкст;* **с. Валянціна Арсоба**, *фота*

Беручы прыклад са Св. Мікалая, які заўважаў у першую чаргу тых, хто патрабуе ўвагі, мы таксама паспрабавалі парадаваць самотных людзей сваімі спевамі, размовай, усмешкай. Яны не засталіся, безумоўна, і без падарункаў. Гэта дзякуючы камітэту "Місія-Развіцця-Міру-Супрацоўніцтва", які існуе пры парафіі св. Канізія ў горадзе Фрыдрыхсхафене.

Пасля сустрэчы з гэтымі людзьмі мы адчулі яшчэ большую патрэбу малітвы за іх і неабходнасць далейшых кантактаў. Тыя словы, якія прагучалі на развітанне, – "Не забывайцеся на нас!", "Прыязджайце да нас часцей!", "Будзем вас чакаць!" – пакінулі глыбокі след у нашых сэрцах.

# Верная слуга Бога

**23 лістапада 2011 г. у касцёле Нараджэння Маці Божай у г. Браславе а 12.00 адбыліся жалобная святая Імша і пахаванне на старых могілках горада сястры эўхарысткі Рэгіны Шаркель. Святую Імшу ўзначаліў кс. бп. Антоній Дзям'янка. Прысутныя святары, сёстры, а таксама парафіяне з Барысава, Браслава маліліся за святой памяці с. Рэгіну, просячы для яе вечную радасць у небе.**

■ **с. Святлана Грэйць**

С. Рэгіна нарадзілася 24 жніўня 1944 года ў Клейпанішках Браслаўскага раёна. Была ахрышчана ў парафіі Урбаны, а сакрамант канфірмацыі прыняла ў парафіі Сілена, што ў Латвіі.

У сэрцы маладой дзяўчыны рана нарадзілася думка, каб цалкам прысвяціць сваё жыццё на службу Богу і людзям. Але смерць мамы не дазволіла ёй распачаць манаскі чын раней, бо адчула сябе вельмі патрэбнай у сям'і – яна была найстарэйшай дачкой.

Адказ на Божы заклік здзейсніўся, калі с. Рэгіне споўнілася 25 гадоў. Тады яна ўступіла ў таварыства сясцёр служабніц Езуса ў Эўхарыстыі. Першыя шлюбы склала 13 ліпеня 1971 года ў Вільні, дзе засталася працаваць на наступныя 20 гадоў.

С. Рэгіна аддначалася вялікай руплівасцю ў апостальскай працы. Акрамя абавязковай у тыя часы дзяржаўнай працы ў аптэцы і шпіталі, катэхізавала дзяцей і моладзь, апекавалася касцёлам, а таксама арганізоўвала эўхарыстычныя працэсіі ў парафіі св. Духа ў Вільні.

З 1980 года дзякуючы дапамозе вернікаў з Барысава, супрацоўнічаючы з айцамі марыянамі, распачала там апостальскую паслугу, а ў 1990 годзе ў Барысаве быў закладзены новы дом сясцёр эўхарыстак. Сэрца с. Рэгіны і дом, у якім ужо жыла супольнасць сясцёр, быў вядомы сваёй гасціннасцю, адкрыты для дзяцей, моладзі, старэйшых людзей. Дзякуючы кантактам з маладымі людзьмі і 18-гадовай працы ў Барысаве нарадзіліся пакліканні да святарскага і манаскага жыцця.

Год працы ў Шклове і два апошнія гады ў Полацку таксама прынеслі свой плён.

С. Рэгіна была прыкладам вернай і адданай службе Богу. Нягледзячы на дрэнны стан здароўя, заўсёды старанна дбала пра жыццё ў малітве, як асабістай, так і супольнай. На працягу 18 гадоў выконвала функцыю начэльнай сястры ў невялікіх супольнасцях, тры гады была апякункай навіцыяту, яшчэ тры гады – апякункай юніёрату, а ў 1990-1993 г.г. была начэльнай супольнасці сясцёр эўхарыстак на тэрыторыі былога Савецкага Саюза.

Гледзячы на пройдзены жыццёвы шлях нашай сястры, дзякуем Пану Богу за пакліканне с. Рэгіны, за яе паслугу не толькі ў супольнасці, але і там, дзе яна працавала на ніве Госпада.



Вечны супакой дай ёй, Пане, і святло вечнае няхай ёй свеціць. Амэн.


Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №9 снежань 2011 г.

# Шчаслівыя міласэрныя...

**З нагоды свята Божага Нараджэння прынята дарыць адно аднаму падарункі. Касцёл заклікае ў гэтыя дні асаблівым чынам памятаць пра тых, хто найбольш патрабуе нашай увагі. "Каталіцкі Веснік" звярнуўся па інтэрв'ю да глыбоцкага парафіяніна спадара Андрэя Шарабайкі, які часта дапамагае праводзіць дабрачынныя акцыі.**



**–Спадар Андрэй, раскажыце, калі ласка, пра сябе.**

–Я нарадзіўся ў Глыбокім. Жанаты, выхоўваю разам з жонкай траіх дзетак. Займаюся рознічным гандлем.

**–Ведаю, што Вы кожную нядзелю стараецеся быць у касцёле. Адкуль вытокі Вашай веры?**

–Сам я хрышчаны ў праваслаўі. Сталася так, што вельмі рана загінула мая мама. Мне было тады толькі 4 гады. Выхаваннем заняліся мае бабуля і дзядуля. Таму ў дзяцінстве я не атрымаў вялікага рэлігійнага вопыту. Калі жаніўся, то мы з жонкай узялі шлюб у касцёле. З гэтага часу пачынаецца маё пазнанне веры і Касцёла. Так, я прыходжу ў касцёл і сам, і з сям'ёй, але не адмаўляюся ад сваіх праваслаўных каранёў. Лічу, што падзел на канфесіі штучны. Бог у нас адзін.

**–Надыходзяць Калядныя святы. Як будзеце святкаваць: адну дату ці дзве?**

–Мы ў сям'і святкуем Каляды і па-каталіцку, і па-праваслаўнаму. Крыху нязручна спалучаць свята Божага Нараджэння па каталіцкім календары, Новы год і праваслаўны перадкалядны пост. Аднак у нас атрымліваецца. Мы да гэтага Свята адносімся вельмі сур'ёзна.

**–Калі мы загаварылі пра веру, можа, падзеліцеся з нашымі чытачамі Вашым рэлігійным светапоглядам?**

–Я не хацеў бы тут хваліцца нечым. Гэта не ў маіх правілах. Аднак лічу, што вера – гэта патрэба душы. Канешне, адчуваю наколькі я слабы чалавек. У той жа час для мяне абсалютна непрымальны, напрыклад, крадзеж. А калі заўважаю за сабой парушэнне нейкай Божай запаведзі, для мяне гэта – канфлікт сумлення. Моцна веру ў Бога. Стараюся перадаць сваю веру дзецям. Малюся кожны вечар. Часам чую, як дзеці шэпчуцца: "Ціха, тата моліцца!". Малітва для мяне – гэта неабходнасць. Падтрымліваю добрыя адносіны з усімі святарамі. Дарэчы, з гэтага знаёмства і пачалася мая дапамога дзецям-сіротам.

**–Раскажыце падрабязней, калі ласка.**

–Да мяне звяртаюцца многія ўстановы з просьбай дапамагчы. З парафіяльнага "Карытас", са школ і інтэрнатаў, з гімназіі. Нядаўна папрасіў дапамагчы зрабіць калядныя падарункі для дзяцей кс. Аляксей Юркайць з Мосара. Ён таксама апякуецца вязнямі. Таму зробім падарункі і яго падапечным з турмы. Нікому ў дапамозе не адмаўляю. Асабліва разумею патрэбу дапамагаць дзецям. Ведаеце, я сам вырас у беднай сям'і. Памятаю, як аднойчы мне было сорамна, калі быў школьнікам, што не мог заплаціць за экскурсію ў Мінск, як усе дзеці. Часам людзі прапануюць аплаціць палову падарункаў. Я заўсёды супраць гэтага. Дапамагаю цалкам бясплатна. І не люблю агалошвання. Раблю гэтае дабро ад чыстага сэрца. А хвальба мне не патрэбная.

**–Спадар Андрэй, я асабіста не аднойчы сутыкаўся на практыцы з прынцыпам: калі аддаеш – яшчэ больш атрымліваеш. У тым ліку і ў матэрыяльнай сферы. А як Вы лічыце?**

–Вядома, памылкай было б меркаваць, што Бог матэматычна ўзважвае, каму колькі адудзячыць за ўчыненае дабро. Я мушу шмат працаваць, каб нешта зарабіць. Але заўсёды малюся за здароўе сваіх дзяцей. І перакананы, што Бог за іх заступаецца. Таксама маім поспехам у працы, напэўна, спадарожнічае Божае бласлаўленне. Кожны год запрашаю святара, каб асвяціў месца працы.

**–Дарэчы, раскажыце больш пра Ваш бізнэс. Думаю, людзям цікава будзе даведацца, выручка з якіх магазінаў трапляе на падарункі дзецям?**

–(Смяецца). Я валодаю сеткай рознічнага гандлю. Гэта пяць крамаў у Глыбокім: "Клубнічка", "Арбузік", "Лимончик", "Апельсинчик" и "Земляничка". У мяне працуе сорак чалавек. Ведаеце, аднойчы завітала да мяне падатковая інспекцыя, і сярод спартыўных узнагарод (я з'яўляюся капітанам футбольнай зборнай раёна) заўважылі падзяку з касцёла. Яны былі вельмі ўражаны і шмат распытвалі пра яе.

**–Што б Вы хацелі пажадаць чытачам "Каталіцкага Весніка"?**

–Каб не былі абыякавымі да людской бяды. Асабліва ў наш нялёгкі час, каб аб'ядноўваліся дзеля ўзаемадапамогі. Былі адкрытымі адно для аднаго. Хочацца пажадаць усім вернікам, каб схадзілі ў храм. Хоць раз на год. Быць можа, якраз на свята Божага Нараджэння. Нельга чалавеку забываць пра духоўнае.

**–Я ад імя чытачоў таксама жадаю Вам раднаснага перажывання Божага Нараджэння, здароўя Вашай сям'і, поспехаў у працы і дабрачыннай дзейнасці.**

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*

# Што паглядзець на Каляды?

**Перад надыходам Свята Божага Нараджэння людзі немінуча плануюць, як правесці гэты час. Натуральна, што вернікі збіраюцца схадзіць на святую Імшу, наведаць родных і сяброў, пабыць з блізкімі пры калядным стале. Каляды – час радасных сустрэч і падарункаў, пахучых ёлак і куцці. Але, напэўна, сярод нашых чытачоў будуць тыя, хто захоча пабавіць свой вольны час каля тэлевізара. Пагатоў святочная тэлепраграма вельмі разнастайная.**

**кс. Віктар Місевіч**

Акрамя розных канцэртаў і камедый можна паглядзець і цікавы мультфільм. Называецца ён "Калядная гісторыя" ("Christmas carol", даслоўна: "Калядная песня"). Створаны па кнізе Чарльза Дзікенса, англійскага пісьменніка. Мультфільм выйшаў у 2009 годзе на студыі Walt Disney Pictures. Рэжысёр – Роберт Земекіс.

Мультыплікацыйны фільм распавядае пра Калядную вігілію аднаго старога скнары. Яго імя – Эбенэзер Скрудж, які зарабляе сабе на жыццё грашовым бізнэсам. Эбенэзер настолькі палюбіў грошы, што забыўся пра чалавечыя каштоўнасці, такія як любоў, сяброўства, дараванне. Калі надыходзіць пярэдадзень Калядаў, усе яго суседзі рыхтуюцца да свята, віншуюць адно аднаго. Толькі галоўны герой застаецца злым і раздражнёным.

Але раптоўна ўвечары яго наведваюць тры духі Калядаў. Першы паказвае Эбенэзеру мінулыя Каляды, другі – цяперашнія, а трэці – наступныя. Нібы ў казцы, перад ім пралятае ўсё жыццё і крыўды, учыненыя людзям. Ён чуе, што ўпотай пра яго кажуць нават самыя блізкія. І як ніхто не шкадуе яго пасля смерці. Скнара спрабуе ўцячы ад зданяў, просіць ратунку, хаваецца, але дарма. Трэці дух урэшце заносіць яго на могілкі, дзе стары адварочваецца, каб не бачыць год смерці на сваім помніку, просячы даць яму яшчэ адзін шанс.




Мультфільм зроблены вельмі якасна з тэхнічнага гледзішча. Прапрацаваная кожная, нават самая маленькая дэталь. Начныя палёты зданяў і старога Скруджа ўражваюць. Да гэтага дадаецца шыкоўнае музычнае суправаджэнне. Адзінае – бацькам варта задумацца, ці паказваць гэты мультфільм дзецям да 10-ці гадоў. Здані выглядаюць вельмі рэалістычна, і дзеці могуць спалохацца. Ва ўсякім выпадку, напэўна, не трэба даваць глядзець гэты фільм малым дзецям без нагляду бацькоў.

"Калядная гісторыя" не расказвае пра Бэтлеем, Езуса і трох каралёў. Падзеі адбываюцца ў Англіі часоў вікторыянскай эпохі (другая палова XIX ст.). Аднак гэтае апавяданне пра старога Скруджа, нават з прысутнымі ў ёй элементамі казкі, несумненна адлюстроўвае глыбокі сэнс хрысціянскіх каштоўнасцяў. У фільме паказана патрэба навяртання і дабра.

Недастаткова проста перагарнуць каляндар ці пазначыць у ім, што святочныя дні мінулі. Гэта не ёсць святкаванне Божага Нараджэння. Мультфільм падказвае і дзецям, і дарослым, што варта азірнуцца навокал. Варта прымірыцца з непрыяцелем і дапамагчы бедным. Таму што Каляды – гэта не проста Winter feast – свята зімы. Каляды – гэта час Божага Нараджэння ў Бэтлееме і ў сэрцы кожнага хрысціяніна.






# Калядны ўспамін з дзяцінства

**Божае Нараджэнне… Напэўна, у кожнага гэтыя словы выклікаюць цеплыню, шчасце, своеасаблівую ўсхваляванасць. Гурт “NRM” у сваёй песні “Сакрэт сусветнага свята” спявае:**

*Каляды блізка – прамень чароўнага агню.*
*Тваё дзяцінства бы абудзілася ад сну...*

**Заўсёды яскрава ўсплываюць дзіцячыя ўспаміны пра гэтае свята. Таму і тэма сённяшняга апытання – “Дзіцячыя ўспаміны пра Божае Нараджэнне”.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Аляксандр Альшэўскі:**

– Мае дзіцячыя ўспаміны пра свята Божага Нараджэння заўсёды пачынаюцца з пачуцця таямнічасці – нешта невядомае, незразумелае, амаль казачнае мусіць адбыцца ў гэтую ноч. На працягу ўсяго дня, а часам і больш, ішла падрыхтоўка: гэта і прыбіранне ў хаце, і дапамога на кухні, і многае іншае. Гэтае свята – самае сямейнае з усіх магчымых. З'яўляецца першая зорка, пад абрус кладзецца сена – і ўся сям'я сядае за стол. Куцця. Пасілак, які папярэджвае малітва. Дзяленне аплаткам! Свечка на стале. Больш за ўсё я любіў кісель! А пасля мы ідзём у касцёл. Для мяне менавіта гэта заўсёды было апагеем. Столькі людзей прыходзіць у храм, каб а 12 гадзіне ночы прывітаць Езуса, які толькі што нарадзіўся! Нарадзіўся, каб назаўсёды застацца ў тваім жыцці.



**Наталля Бублевіч:**

– З дзяцінства Божае Нараджэнне звязана з адчуваннем незвычайнага свята, якое пачынаецца ноччу. Але, калі на небе з'яўлялася першая зорка, мы ўсёй сям'ёй збіраліся за адным сталом на куццю. Добра памятаю, што стол гэты незвычайны. Мы заўсёды лічылі колькасць страў: іх павінна было быць 12. Стаяла і лішняя талерка. Памятаю, бацькі мне казалі: “Гэта талерка тут для таго, каб які-небудзь самотны вандроўнік завітаў на Свята ў наш дом”. Але самая любімая частка куцці – калі дзяліліся аплаткам. А затым, ужо бліжэй да ночы, я разам з бацькамі збіралася ў касцёл. Пасля Імшы, зайшоўшы ў хату, адразу ж беглі пад елку і глядзелі, ці прынёс нам што-небудзь Святы Мікалай.









**Паліна Ткачэнка:**

– Божае Нараджэнне? Гэта мароз, вялікі… Мы з бабуляй і маці топаем на Імшу. Тады яшчэ не зразумелую мне. Адразу паўстае стаенка. Мне вельмі падабаўся адзін з мудрацоў. Менавіта яго жоўта-зялёнае адзенне мне адбілася ў памяці. А яшчэ елкі. Яны былі цудоўныя! А на адной з іх (наша касцельная традыцыя) былі развешаны толькі што выразаныя дзецьмі зоркі і сэрцы – сімвал нашых добрых учынкаў. Мы самі іх выразалі і вешалі на елку. А яшчэ памятаю свечкі на алтары. Іх было больш чым заўжды. І я, малая, заўсёды заглядвалася на іх, ажно да болю ў вачах. Памятаю аплаткі пасля Імшы. Я вельмі саромелася жадаць штосьці, асабліва дарослым. А яны толькі ўсміхаліся. Зараз нават пры словах “Божае Нараджэнне” на твары ўзнікае ўсмешка.

**Уладзіслаў Журко:**

– Калі я быў яшчэ зусім малы, тата ўпершыню прывёў мяне на Пастэрку. Не было моцнага марозу. На небе ярка зіхацелі мільёны зорак. Памятаю, што ў касцёле было цёмна і ціха, і толькі ўпрыгожаныя хвойкі пераліваліся мноствам агеньчыкаў. На іх можна было глядзець бясконца. Над пустымі яслямі загарэлася зорка, у грудзях закалацілася сэрца. Час нібы спыніўся ўчаканні Цуда…



**Кс. Андрэй Кулік:**

– Успаміны пра Божае Нараджэнне – гэта перш за ўсё падрыхтоўка да Вігілійнай вячэры. Яе нетыповасць, у параўнанні з іншымі пасілкамі, была для нас, дзяцей, відавочнай. Тое, наколькі адказна да яе падрыхтоўкі ставіліся бацькі, будзіла ў маёй дзіцячай галаве пачуццё нечага таямнічага. Стравы, што, як тлумачыла мама, павінны былі абавязкова знайсці сваё месца на стале ў гэты вечар, сена, што ляжала пад абрусам, мелі ў сабе нейкі асаблівы сэнс, і, здавалася, павінен абавязкова адбыцца цуд.

Гледзячы праз акно ў цемень ночы, хацелася ўявіць сабе тую далёкую хвіліну, калі маленькае Дзіцятка ляжала ў яслях. Асабліва блізкімі, амаль жывымі сведкамі той падзеі здаваліся ў такі вечар зоркі. Усведамленне таго, што так, як сёння на мяне, яны аднойчы глядзелі з неба на народжанага Збаўцу, напаўняла маё дзіцячае сэрца своеасаблівым пачуццём. Пачуццё гэтае зараз можна акрэсліць як дотык усяго жывога і ўвогуле сусвету да таямніцы Адкуплення.



# Незабыўнае харaство

**У нядзелю, 4 снежня, адбылася пілігрымка ў Мосар дзяцей і моладзі з парафіі ў Порплішчы (Докшыцкі дэканат). Пілігрымы накіраваліся туды, каб пакланіцца рэліквіям св. Юстына і памаліцца каля магілы кс. Ёзаса Булькі.**

■ **Ян Вярэнька**

Мосар уражвае сваёй прыгажосцю. Вялікай радасцю было набраць святой вады з крынічкі і пахадзіць па алеі цвярозасці. Якраз а 13 гадзіне ў Мосарскім касцёле кс. Аляксей Юркайць адпраўляў св. Імшу. Таму ў маладых пілігрымаў была магчымасць перажыць Эўхарыстыю з мясцовымі парафіянамі.

Пробашч кс. Аляксей распавёў дзецям пра гісторыю парафіі, а таксама пра культ св. Юстына. У зваротны шлях, у Порплішча, вернікі накіраваліся з падарункамі ад пробашча і незабыўнымі ўражаннямі.

Вяртаючыся дамоў, немагчыма было не зайсці да гасцінных айцоў-францішканаў у Удзеле. Дзеці наведалі ўдзельскую “Батлейку”, фотаэкспазіцыю аб місіянерскай працы францішканаў у свеце, а таксама папрысутнічалі на рэпетыцыі мясцовага парафіяльнага гурта.

Мосар і Удзела – гэта святыні Віцебскай дыяцэзіі. Яны яшчэ раз паказваюць пілігрымам, як Божая ласка ў лучнасці з руплівай працай чалавека можа стварыць незабыўнае харaство, суладдзе духоўнага і зямнога.




## Адказы на пытанні віктарыны ў 7 нумары “Каталіцкага Весніка”

**1.** Ксёндз Канстанцін Стаповіч, пісаў пад псеўданімам Казімір Сваяк, зборнік “Мая ліра”.

**2.** Ксёндз Вацлаў Пянткоўскі, парафія Мядзведзічы.

**3.** Айцец Язэп Германовіч МІС (належаў да манаскай супольнасці марыянаў), псеўданім Вінцук Адважны.

**4.** Ксёндз Язэп Барадзюля.

**5.** Ксёндз Віктар Шутовіч.

**6.** Крошынская парафіяльная школа цесна звязана з іменем кс. Магнушэўскага.

**7.** 21-25 сакавіка 1923 года ў Маскве адбыўся паказальны працэс над 14 каталіцкімі ксяндзамі на чале з арцыбіскупам Янам Цепляком з абвінавачваннямі ў стварэнні контррэвалюцыйнай арганізацыі польскага духавенства (першы раз арцыбіскуп быў арыштаваны на пэўны час яшчэ ў 1920 годзе.). Арцыбіскуп Цепляк і ксёндз Будкевіч былі прысуджаныя да расстрэлу. Астатнія святары атрымалі кару пазбаўлення волі і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на тэрмін ад 3 да 5 гадоў. Пад уплывам пратэстаў Захаду расстрэл для арцыбіскупа Цепляка быў заменены на зняволенне на 10 гадоў. 1 красавіка гэтага ж года, на Вялікдзень, быў расстраляны кс. Будкевіч. 9 красавіка 1924 года арцыбіскуп Цепляк быў вызвалены з турмы і дэпартаваны да савецка-латышскай мяжы. 13 красавіка ён прыбыў у Варшаву. З моманту дэпартацыі арцыбіскупа Цепляка з СССР Касцёл у гэтай краіне застаўся без каталіцкай іерархіі.

**8.** Блаславёная Мар’яна Бярнацкая была расстраляна гітлераўцамі 13 ліпеня 1943 года.

**9.** Заснавальніцай Кангрэгацыі Сясцёр-Місіянерак Святой Сям’і з’яўляецца блаславёная Баляслава Лямэнт. У 1903-1907 гг. яна працавала ў Магілёве.

**10.** Ксёндз Аляксандр Астамовіч, псеўданім Андрэй Зязюля, зборнік вершаў “З роднага загону”.

***

Правільныя адказы нам даслалі **Рэгіна Атрашкевіч** (в. Старае Сяло, Віцебскі раён) і **Яўген Кузьміч** (г. Віцебск). Ім высланыя прызы ад нашай газеты.

**Віншуем пераможцаў!**



■ айцец Кшыштаф Коц'ян OP

# Шлях да сталення

## Над псіхалагічнымі асаблівасцямі споведзі разважае айцец дамініканін

**Калі мы хочам паказаць вартасць Сакраманту пакуты, звяртаем увагу на такія карысныя ў псіхалагічным плане рэчы, як магчымасць выгаварыцца, зірнуць на сваё жыццё з іншай перспектывы, глыбей зразумець матывацыю сваіх паводзін. Аднак, калі затрымлівацца толькі на гэтым зямным узроўні, тады, можа, лепшай за споведзь будзе размова з сябрам альбо псіхолагам.**

Споведзь таксама мае зямное вымярэнне. Мы вызнаём свае грахі перад ксяндзом, узамен атрымліваем настаўленне і пакуту. Але нельга забывацца, што святар – толькі малы слуга вялікай таямніцы. Споведзь — гэта перадусім спатканне з міласэрным Богам, які прабачае нашыя грахі, лечыць нашыя душы і адбудоўвае нашыя з Ім повязі. Добрая Навіна Сакраманту пакуты кажа пра тое, што наш грэх – вельмі сур'ёзная і цяжкая справа, але для Бога мы нашмат больш важныя, чым наш грэх. Грэх – гэта нешта страшнае, але мы не павінны ўжо яго баяцца, бо ён быў знішчаны ўсемагутнай любоўю Бога да нас.

Практыка споведзі датычыць не толькі нашага духоўнага жыцця. Яна таксама здольная змяніць наша жыццё ў псіхалагічным плане. Пра гэта мне і хацелася б сказаць у дадзеным артыкуле.

У споведзі мы сустракаемся з нашым уласным злом, але яно ўжо абяззброенае. Таму нам не трэба ўпадаць у роспач альбо ўцякаць ад свайго зла праз яго адмаўленне. У кожнага чалавека ёсць схільнасць да самападману. Мы кажам самі сабе, што нічога такога страшнага не зрабілі, што мы не горшыя за іншых людзей. Альбо ўвогуле намагаемся паказаць усё так, быццам тое злое насамрэч добрае, і мы нават можам ім ганарыцца. У такой сітуацыі прыгадваецца адзін анекдот. Чалавек, які пакутаваў ад энурэзу, пайшоў да доктара. Той яго супакоіў:

**Бог не глядзіць на нас як на грэшных слабакоў, а толькі як на тых, каго вельмі любіць.**

– Не перайма́йцеся, калі ласка, такія рэчы са многімі здараюцца. Я вазьму ў вас аналізы, знайду прычыну хваробы і вылечу вас.

Калі ўсе аналізы былі праведзеныя, лекар сказаў хвораму:

– З вашым арганізмам усё ў парадку. Думаю, ваша праблема псіхалагічная. Вось вам тэлефон вельмі добрага псіхолага, паразмаўляйце з ім.

Праз месяц доктар і пацыент выпадкова сустрэліся на вуліцы.

– Ну, як вашы справы?

– Ах, доктар, я так удзячны вам за тэлефон таго псіхолага!

– Дык што, вы больш не мочыцеся па начах?

– Яшчэ як мачуся! – адказаў пацыент. – Але цяпер я ганаруся гэтым!

Мы часта паводзім сябе як той псіхолаг з анекдота і хочам ашукаць рэчаіснасць, ігнаруем сваю праблему замест таго, каб змагацца з ёю. Сустрэча з Богам у Сакраманце пакуты і паяднання – гэта штосьці супрацьлеглае. Слабасць праўдзіва называецца слабасцю, але Бог не глядзіць на нас як на грэшных слабакоў, а толькі як на тых, каго вельмі любіць. У Сакраманце споведзі Бог на нашым баку, Ён не асуджае нас, але дапамагае адкрыць праўду аб нашай веліччы дзяцей Божых.

**Бог – гэта Сябар, які ставіцца да нас з бясконцай любоўю і дабрынёй**

У гэтым месцы мне прыпомніўся адзін выпадак, які адбыўся ўжо даўно. Калі я скончыў аўташколу, у мяне не атрымалася здаць экзамен. Тады я на колькі гадоў прыпыніў ідэю атрымання пасведчання кіроўцы, але адчуваў комплекс ад таго, што ў мяне няма гэтага права. Мне было сорамна, я пачуваўся найгоршым з усіх і нават не хацеў, каб хтосьці ў маёй прысутнасці размаўляў на гэтую тэму. Потым я пайшоў вучыцца другі раз, мне вельмі не хацелася, каб пра гэта хто-небудзь ведаў. Пасля заканчэння курса, калі быў паміж экзаменамі (здаў толькі з другога разу), мой сябар, сам выдатны кіроўца, у размове ўзгадаў пра мой першы правалены іспыт. Спачатку я абурыўся: як так, дружа, ты ж ведаеш, што гэтыя ўспаміны вельмі балючыя для мяне! Аж раптам зразумеў, што для майго сябра няма нічога страшнага ў нязданым экзамене. Што ён бачыць ува мне свайго сябра, якога цэніць. І што, кажучы пра мой няўдалы досвед, ён не лічыць мяне за горшага і ніколі не думаў пра мяне гэтак. Насамрэч гэта я лічыў сябе найгоршым.

**Споведзь – гэта месца, дзе мы можам сустрэцца з праўдаю пра нас саміх.**

Чалавечае сяброўства абмежаванае, а Бог – гэта такі Сябар, які ставіцца да нас з бясконцай любоўю і дабрынёй. Гэты вызваляльны досвед мае непасрэдную сувязь са споведдзю. Мы часам не любім спавядацца, бо мусім вызнаваць рэчы цяжкія, сорамныя, пра якія нам самім хацелася б забыцца, праз якія мы пачуваемся кепскімі. Бог можа здавацца нам у тыя моманты пазбаўленым пачуццяў. Мы кажам: як Ты можаш, няўжо не бачыш, як мне цяжка, як гэтая споведзь мяне прыніжае. Але якраз тады мы павінны разумець, што Бог не асуджае нас. Гэта мы часта асуджаем самі сябе. А Ён бачыць у нас сваіх дзяцей, якімі ганарыцца. Хоча толькі ўскрыць нарыў на нашай душы, каб не гнаіўся. Каб рана гаілася і не балела.

Досвед споведзі не толькі ўнутрана нас аздараўляе, але і перамяняе нашыя адносіны з іншымі. Бо, прабачаючы і прымаючы прабачэнне, мы пачынаем верыць, што дараванне сапраўды існуе. І яшчэ больш ахвотна прабачаем. Божая любоў і міласэрнасць дзейнічаюць таксама праз усіх нас.

Споведзь – гэта месца, дзе мы можам сустрэцца з праўдаю пра нас саміх. Перадусім гэта праўда пра нашую вялікую вартасць у вачах Пана Бога. Гэта таксама праўда пра наш грэх, які быў пераможаны Езусам Хрыстом, і таму мы таксама можам яго перамагчы. Споведзь – гэта прыняцце адказнасці за сваё жыццё. Калі мы ў стане прызнацца ва ўчыненым намі зле, то мы тым больш у стане заўважыць прастору, дзе можам свядома рабіць дабро. У споведзі мы вучымся кіраваць сваім жыццём. А гэта шлях да сталення.

# Свята Christmas

**Найважнейшае ва ўсім гэтым – памятаць пра сутнасць свята, каб ведаць, чаму купляем падарункі, чаму вігілійная вячэра з'яўляецца багацейшай і больш урачыстай за звычайную сямейную вячэру. Што ўсё гэта мае і павінна мець дачыненне да Таго, хто нарадзіўся дзве тысячы гадоў таму ў Бэтлееме.**

■ **Віталь Кульпекша**, *дырэктар Карытас Віцебскай дыяцэзіі*

Божае Нараджэнне – не іменіны, не імпрэза, не банкет або іншае якое сяброўскае спатканне. Гэта важная традыцыя звароту да Бога не толькі ў час трывогі, але і ў час радасці. Ангельска-амерыканская універсальная і ўсё больш папулярная назва Божага Нараджэння – Christmas – паспрыяла, што мільярды людзей ва ўсім свеце, нават тыя, што не з'яўляюцца хрысціянамі, прымаюць наша свята і нашу традыцыю. Ніколі ад часоў апостальскіх імя Хрыста не было ў свеце так вядомае, як зараз, у XXI стагоддзі. Але наколькі Christmas з'яўляецца павярхоўнай пагоняй за прэзентамі, а наколькі глыбокім рэлігійным досведам – ужо зусім іншая гісторыя, якая залежыць ад нас саміх.

Дзякуючы глабальнаму значэнню ангельскай мовы слова "Christmas" і свята Christmas ужываюцца ўсюды. Нават у такіх краінах, як Японія, Карэя, Індыя, дзе мала хрысціянаў. Вялікую ролю ў гэтым глабальным распаўсюджанні імя Хрыста па-за абшарамі хрысціянскай цывілізацыі адыграў папа Ян Павел II – пілігрым на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў. Гэта Святы Айцец прычыніўся да таго, што ў маштабах амаль усяго свету ціхая ноч стала ноччу радаснага калядавання. Пастэрка, што традыцыйна адпраўляецца Папам у Рыме апоўначы 24 снежня, транслявалася з Ватыкана на ўвесь свет праз тэлебачанне і радыё.

Глабальны, паўсюдны і ўніверсальны характар маюць сёння таксама калядкі – песні, якія ўзносяць хвалу Хрысту і Марыі ва ўсім свеце, а не толькі ў краінах хрысціянскіх. Калядкі ствараліся ад самага пачатку хрысціянства і з'яўляліся ў старажытныя часы элементам евангелізацыі.

Гэта дзіўна, што па-ранейшаму захоўваецца звычай дасланння традыцыйных пажаданняў на Божае Нараджэнне. Апроч SMS-ак, тэлефанаванняў, факсаў і электронных лістоў мы дасылаем каляровыя паштоўкі са Святой Сям'ёй, Трыма Каралямі, бэтлеемскай стаенкай ці хаця б з выявамі елкі, лесу і заснежанага зімовага краявіду.

Да святочных пажаданняў далучаем звычайна пажаданні навагоднія. І адны, і другія зычэнні маюць рэлігійны характар. Бо наш каляндар з'яўляецца найбольш універсальным і распаўсюджаным сімвалам народзінаў Езуса Хрыста ў Святой Зямлі, у Бэтлееме. Гэта тады пачалася новая эра, гэта ад той даты ўсё лічым – дні, месяцы, гады, дэкады, вякі, тысячагоддзі, цэлыя эпохі. Усё пачалося ад Божага Нараджэння каля 2000 гадоў таму. Гэта не толькі наша рэлігія, гэта – наша цывілізацыя! Яе ўніверсальнасць асабліва відавочная ў перыяд Божага Нараджэння і Новага года. Менавіта таму мы зараз з'яўляемся сведкамі чарговай – на працягу двух тысяч гадоў – масавай атакі на хрысціянства, на хрысціянаў, на сімвал Святога Крыжа, на Касцёл, на ўсё, што называем нашай цывілізацыяй.

Уштодзённасці мала хто пра гэта памятае, але ж увесь наш каляндар мае хрысціянскі характар. Бо лічым гады ад той найважнейшай даты, ад Божага Нараджэння. Менавіта гэтым хрысціянскім календаром карыстаюцца штодзень мільярды людзей ва ўсім свеце, нават тыя, што не з'яўляюцца хрысціянамі. Так і я дасылаю спадарству найсардэчнейшыя святочныя і навагоднія пажаданні: здароўя, поспехаў і шчасця ў асабістым жыцці, як і ва ўсім тым, што з'яўляецца найважнейшым для кожнага хрысціяніна.

# Адвэнт – час надзеі



**Адвэнт...Час радаснага чакання...Чакання прышэсця Збаўцы... Мы так прызвычаіліся да гэтага выразу, што нават не задаём сабе дастаткова лагічнага пытання: "А навошта гэта рабіць? Навошта Яго чакаць, калі Ён ужо даўно прыйшоў і ёсць з намі? Які сэнс у такім чаканні?" Вось над чым мне хочацца падумаць сёння, калі пачынаецца гэты літургічны перыяд.**

■ **Яўгенія Раткевіч**

Пытанне пра сэнс такога чакання з'яўляецца лагічным, бо ўсе мы ведаем: Езус прыйшоў на гэты свет больш чым 2000 гадоў таму, што было нават навукова пацверджана. Тады аб якім чаканні і прышэсці тут гаворка? Мне здаецца, што можна разглядаць гэта, прынамсі, з двух бакоў.

Па-першае, такім чынам мы маем асаблівы час, каб успомніць і падрыхтавацца да Другога Прышэсця Хрыста, калі Ён будзе судзіць жывых і памерлых. Па-другое, гэты перыяд вызначаны для таго, каб задаць сабе пытанні вельмі асабістыя: "Ці Езус прыйшоў ужо ў маё сэрца, у маё жыццё? Ці чакаю я зноў і зноў Яго Прышэсця, калі здаецца, што Ён адышоў? Які мой адказ на Яго Прышэсце?" Усё гэта, на маю думку, з'яўляецца вельмі важным для таго, каб пазней пачуць праўдзівы смак спаткання!

Чаканне – гэта такі працэс, які ахоплівае ўсё нашае асабістае, сямейнае і грамадскае існаванне. Чаканне прысутнічае ў шматлікіх жыццёвых сітуацыях, пачынаючы ад самых простых і заканчваючы найбольш складанымі, якія поўнасцю нас паглынаюць.

Падумайце хаця б пра тое, як бацькі чакаюць нараджэння свайго дзіцяці або як сябар чакае асаблівага госця, калі той прыязджае здалёк. Падумайце пра маладога чалавека, які чакае вынікаў важнага экзамену або атрымання запрашэння на працу. Падумайце пра закаханых, якія чакаюць спаткання пасля доўгага расстання.

Можна смела сказаць, што чалавек жыве, пакуль чакае, пакуль у яго сэрцы ёсць надзея. Больш за тое, менавіта падчас чакання чалавек мае магчымасць пазнаць лепей самога сябе. Таксама тое, чаго мы чакаем і з чым звязаны нашыя надзеі, можа дапамагчы ацаніць нашае духоўнае жыццё.

Аднак асабістыя ўяўленні пра Прышэсце Збаўцы ў нашае жыццё могуць аказацца перашкодай на шляху адкрыцця Бога на кожны дзень. Планы Божыя найчасцей адрозніваюцца ад чалавечых. І самым цяжкім для нас з'яўляецца быць адкрытымі для плану любові, падрыхтаванага Богам для нас. Прыклад Марыі, якая адказала Богу сваё "Так", нягледзячы на тое, што гэта здавалася неверагодным і немажлівым, заахвочвае нас да поўнага даверу Богу. Распазнаць Яго прысутнасць тут і цяпер, у той сітуацыі, у якой знаходзімся, на той дарозе, якой крочым... Хоць часамі нам так цяжка гэта зрабіць...Таму будзем маліцца і прасіць Яго, каб адкрыў нашыя вочы і сэрца, каб мы маглі перажываць штодзённыя здарэнні ў духу паглыбленага чакання, якое запоўніць можа толькі сам Бог.

***Вясёлых Калядаў!***

*Сардэчна віншуем нашага пробашча кс. Юрыя Бараўнёва з нагоды Свята Божага Нараджэння. Жадаем яму моцнага здароўя, Божай ласкі і Божага благаслаўлення ў святарскай працы. Шчыра дзякуем за святарскую паслугу ў нашых парафіях.*

*Парафіяне з Порплішча, Крулеўшчыны і Барсукоў*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**18 снежня 2011 г. Лк 1, 26-38**

Пан Бог кліча нас, Яго вучня, да ўдзелу ў вялікіх Божых справах. Таксама Ён хоча праз нас прыйсці ў свет. Бог кожнага адарыў асабістымі ласкамі, каб у нас магла аб'явіцца Божая прысутнасць. Мы так, як і Марыя, не ўсё адразу бачым і не ўсё разумеем, але давяраем Богу. Трэба пагадзіцца з Яго воляй. Адназначна і адважна яе прыняць. Кожны дзень пагаджацца з Божай воляй і жыць згодна з ёй. А Ён зробіць нават тое, што «ў людзей з'яўляецца немагчымым».

*– Ці ўсведамляю сваё хрысціянскае пакліканне?*

*– Ці цаню тое, да чаго Бог мяне паклікаў?*

*– Ці шукаю Божых спраў на дарозе свайго жыцця?*

*– Ці разважаю, што Ён хоча зрабіць для мяне і для людзей праз мяне?*

*– Каму канкрэтна Ён хоча дапамагчы праз мяне?*

*– Ці не перашкаджаюць мне мае чалавечыя прымхі і звычкі прыняць Божы заклік?*

*– Ці пытаюся ў Езуса, якая Яго воля для мяне?*

*– Ці пытаюся, што Ён хоча, каб я рабіў сёння?*

*– Якім чынам павінен гэта рабіць?*

*– Ці раблю тое, што Ён хоча?*

**25 снежня 2011 г. Ян 1, 1-18**

Пан Бог-Слова-Езус Хрыстус прыйшоў да людзей. Многія не прынялі Яго. А тым, хто прыняў, у тым ліку і нам, даў сілу стаць Яго дзецьмі. Каб мы нарадзіліся з Бога. Даў нам новае жыццё, жыццё новага чалавека – Божага. Ён нарадзіўся ў нас, і ў нашым сэрцы заззяла Божае валадарства, Божая прысутнасць.

*– Як праводжу святы?*

*– Ці адраджаецца ўва мне Езус?*

*– Ці прымаю Яго да сябе нанова праз навяртанне, споведзь і новае жыццё?*

*– Ці разумею, што Бог хоча прысутнічаць на зямлі сярод людзей у маім сэрцы?*

*– Ці бачаць іншыя людзі Бога ў маім сэрцы?*

*– Што перашкаджае і што дапамагае, каб Божы бляск свяціў ува мне моцным святлом?*

*– Ці прыняў Яго ў "хлеў" майго сэрца?*

*– Магчыма, адразу пасля святаў выганю Яго да неба, да касцёла, да іншых?*

*– Ці мае Ён вызначанае месца жыхарства ў маім жыцці?*

**1 студзеня 2012 г. Лк 2, 16-21**

Цудоўная Божая прысутнасць і Божыя справы праяўляюцца ў звычайнай шэрай штодзённасці. Цудоўная вестка анёлаў, скіравана да пастухоў, прывяла іх да звычайнага хлева. Там бачым немаўля, народжанае ізраільскай жанчынай. Марыя бачыць Божыя справы і абдумвае іх у цішыні свайго сэрца. Праз восем дзён адбываецца абрад абразання – зямны знак вернасці Божаму праву. У першы дзень Новага года і пасля святаў Божага Нараджэння вяртаемся да штодзённасці. Але вера не памірае, не гасне, як гірлянда на ёлцы. Вера распальвае сэрцы кожнага з нас у простым штодзённым жыцці. Штодзённасць асветлена святлом нашага сэрца.

*– Ці ўмею заўважаць Божыя справы ў сабе і вакол сябе?*

*– Ці дзякую Богу?*

*– Ці праслаўляю Яго?*

*– Ці цаню цуд сярод штодзённасці?*

*– Магчыма, толькі шукаю рэлігійных сенсацый і духоўных феерверкаў?*

*– Ці здольны заўважаць Бога ў тых справах, якія, на першы погляд, прызначаныя не для Яго?*

*– Ці бачу Бога ў дары бацькоўства, мацярынства?*

*– Ці бачу Божы дар у чалавечай пладнасці?*

*– Ці пытаюся штодзень пра Божую волю для сябе?*

*– Ці пытаюся, што Ён хоча сказаць мне і іншым праз розныя здарэнні?*

*– А магчыма, жыву ў сваіх уласных марах і ўяўленнях?*

*– Ці не спрабую вучыць Бога, што і як Ён павінен рабіць, каб я Яго прызнаў?*

*– Ці перамяняю штодзённасць прысутным ува мне Богам?*

**8 студзеня 2012 г. Мк 1, 6-11**

Езус стаіць у рацэ Іардан, брудны ад нашых грахоў. Бязгрэшны, але вельмі блізкі да нашых грахоў. Бярэ іх на свае плечы, каб занесці на крыж. І там яго (ГРЭХ) ПЕРАМАГЧЫ. Бог-Дух Святы – прычына таго дабра, якое мы робім. Ён святло, якое асвятляе наша сэрца, і Агонь, і Любоў. Ён прысутнічае ў нас ад моманту хросту. Езус нас хрысціць Святым Духам, гэта значыць, пагружае нас у Яго. Крыніца жыцця завіравала ў нашых сэрцах. Трэба, каб гэтае Святло і гэтая Вада заўсёды ажыўлялі нас. Езус нарадзіўся ў Бэтлееме паміж людзьмі, каб запаліць у нашых сэрцах агонь Святога Духа. Святы Дух хоча прыйсці ў свет праз нашае жыццё і нашыя справы. Будуйма ж Божае Валадарства ў нас і паміж намі!

*– Ці памятаю, што Езус увайшоў у Іардан, каб вырваць мяне з майго граху і вылечыць раны, якія гэты грэх пакінуў?*

*– Ці хачу аддаць Яму сваё жыццё і свае слабасці, каб мяне збавіў?*

*– А можа, іду да Яго толькі з тым, што добра, а дрэннае і балючае хаваю ад Яго?*

*– Ці адкрываюся Божаму Духу, якім мяне адарыў Езус?*

*– Ці слухаю голас свайго сумлення?*

*– Ці жыву паводле Божага слова?*

*– Ці слухаю Святога Духа ў супольнасці Касцёла?*

*– Ці іду па Божыя натхненні?*

*– Ці прашу Яго аб дарах Святога Духа?*

*– Ці прашу Яго аб мудрасці, мужнасці і любові?*

*– Ці мой светапогляд згодны з Божым духам?*

*– Ці дазваляю Богу праз мяне любіць іншых?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

# ПРАГРАМА “Х ДНІ ХРЫСЦІЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ” ВІЦЕБСК 2011 - 2012

| | | |
|---|---|---|
| 16.12.11 16:00 | Выстава дзіцячай творчасці | Гарадскі Цэнтр Дзіцячай Творчасці, Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 16.12.11 18:30 | Малітоўнае Чуванне Моладзі | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 18.12.11 16:00 | Аплатковая Сустрэча Творчай Інтэлігенцыі | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 23.12.11 16:00 | Выстава дзіцячай творчасці “Скарбніца Ражства” з удзелам гуртkoў ГЦДТ | Абласны Мастацкі Музеі, вул. Леніна, 32 |
| 24.12.11 20:00 | Святочны канцэрт артыстаў Віцебскай абласной філармоніі | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 24.12.11 21:00 | Вігілія Урачыстасці Божага Нараджэння. Святочная Святая Імша з удзелам Біскупа Уладзіслава Бліна | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 25.12.11 10:00 | Дзіцячы Канцэрт Калядаў | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 27.12.11 11:00 | Аплатковая Сустрэча “Клуб Бэтэль” | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 28.12.11 10:00 | Дыяцэзіяльны Конкурс Батлеек | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |
| 03.01.12 14:00 | Святочны канцэрт для хворых дзяцей з удзелам дабрачыннага таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі | УА Віцебская Абласная Клінічная Бальніца, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 37 Актавая зала |
| 04.01.12 | XI Фестываль “Зорка Бэтлеема” | г. Міёры, Дом Культуры |
| 08.01.12 19:00 | Святочны канцэрт артыстаў Віцебскай абласной філармоніі | Парафія св. Барбары, вул. Ленінградская, 27, г. Віцебск |
| 08.01.12 10:30 | Хрост Пана Езуса. Святочная Святая Імша з удзелам Біскупа Уладзіслава Бліна | Парафія Езуса Міласэрнага, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 |

# Падарункі ад Святога Мікалая

**Не памылюся, калі скажу, што падарункі любім атрымліваць не толькі мы, дзеці, але і дарослыя.**

**Сяргей Касцюк**, *в. Навасёлкі-1*

Нагода для гэтага можа быць розная: дзень нараджэння, дзень анёла-ахоўніка і, вядома, Каляды, Новы год. А яшчэ ў каталіцкім календары прынята адзначаць дзень Святога Мікалая. Гэты святы — сінонім шчодрасці і любові, ён дапамагае верыць у дабро, узмацняе аптымізм, нясе радасць і духоўны спакой, вучыць быць цярплівымі і прабачаць і заўсёды прыходзіць з падарункамі.

У лучайскі касцёл на Святую Імшу Святы Мікалай з анёлкамі з'явіўся ў нядзелю, 4 снежня. Ён распытваў у дзяцей пра іх справы ў школе і дома, пра гульні, сяброў і многае іншае, уручаў падарункі. Не абдзяліў увагай і дарослых. А яшчэ прапанаваў паслухаць выступленне беларускага фолк гурта “Pete Paff” з Мінска. Адметнасць гэтага калектыву ў тым, што яго ўдзельнікі іграюць на рэдкіх этнічных музычных інструментах, такіх як цымбалы, акарына, жалейка, пішчолка, флейта, домра, мандаліна, ліра, дуда-валынка, розныя барабаны. Ёсць інструмент, зроблены са звычайнай саломкі. Кіраўнік гурта вядомы гітарыст Піт Паўлаў цікава расказваў пра многія з інструментаў і іх асаблівасці, пра рэпертуар, у якім пераважаюць беларускія песні, многія пераараанжараваныя. Гурт выступаў у Польшчы, Германіі, Славакіі, Швецыі. Канцэрт “Pete Paff” стаў сапраўдным падарункам і для тых, хто прыйшоў у касцёл.

Парафія наша вялікая, вёскі размешчаны далёка ад касцёла і многія людзі па стану здароўя дабрацца ў Лучай не маюць магчымасці, таму Святы Мікалай накіраваўся ў парафіяльныя капліцы ў Навасёлкі і Цешалава. Маліўся разам з вернікамі, а потым частаваў іх цукеркамі, жадаў здароўя, даўгалецця, спакою і раўнавагі. З роляй святога Мікалая ўдала справіўся наш актыўны парафіянін Валерый Лешчык. А свята стала магчымым дзякуючы старанню пробашча лучайскага касцёла ксяндза Мікалая Ліпскага, які ў той дзень таксама прымаў віншаванні з нагоды сваіх імянін.



# Прыйдзі, мы Цябе чакаем!



**Адвэнт з'яўляецца перыядам падрыхтоўкі да свята Божага Нараджэння.**

**с. Святлана Грэйць**, *тэкст;* **Ірына Грэйць**, *фота*

У чарговы раз Касцёл запрашае кожнага з нас схіліцца над таямніцай Услаўлення Божага Сына, зноў адкрыць неабсяжную любоў Айца Нябеснага, які “так палюбіў свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае”.

27 лістапада моладзь і сталыя вернікі Полацкай парафіі сабраліся на супольным набажэнстве Taize, каб у выкупленні і малітве распачаць падрыхтоўку да Божага Нараджэння. Слова Божае, спевы, разважанні і час цішыні ў момант супольнай малітвы дапамагалі затрымацца і падумаць над сваім жыццём.

На парозе чарговага Адвэнта сабраныя на малітве вернікі задавалі сабе пытанні: “Ці змагу і ці хачу адкрыць перад Хрыстом дзверы майго сэрца? Ці прагну я запрасіць Госпада ў маё жыццё, каб Ён змяніў яго сваёй ласкай? Ці прыкладу я намаганні, каб сёлетні Адвэнт быў іншы, выключны? Якія пастановы хачу зрабіць, каб маё жыццё змянілася на лепшае?”. Кожны з нас павінен падрыхтаваць дарогу Госпаду, ачысціць душы, каб быць гатовым сустрэць нараджэнне Збавіцеля.

Таму ўсім, хто зрабіў пастановы на час Адвэнта і прагне, каб Хрыстос сваёй ласкай змяніў жыццё, жадаем, каб гэты перыяд быў часам змянення нашых сэрцаў.

# Вялікі дзякуй!

Адышлі вялікія падзеі: Дзень Усіх Святых і Дзень успамінаў усіх памерлых.

Вядома, да гэтых святаў людзі імкнуцца прывесці ў парадак магілы сваіх блізкіх. Але, на жаль, вёскі “старэюць”, дзеці жывуць далёка, і не заўсёды назіраецца належны догляд магілак. Пра многія пахаванні наогул ужо няма каму клапаціцца.

У сродках масавай інфармацыі часта абмяркоўваецца пытанне ўтрымання могілак, але часцей мы бачым іх не ў адпаведным стане. Многія з нас былі ў вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна і бачылі, як упарадкаваныя мясцовыя могілкі там.

У вёсцы Камаі Пастаўскага раёна ў парафіі Яна Хрысціцеля ініцыятарам і галоўным арганізатарам навядзення парадку на могілках стаў мясцовы ксёндз Яцэк Хутман. Дзякуючы яму тут упарадкаваныя пахаванні, а напярэдадні свята пачалася праца на могілках у в. Каралінова. Могільнік набыў новы выгляд, наведзены парадак на месцы даваенных пахаванняў, спілаваны старыя дрэвы. Для навядзення парадку патрабуюцца значныя матэрыяльныя сродкі. Таму на заклік ксяндза адгукнуліся мясцовыя жыхары, блізкія памерлых з усіх куткоў Беларусі і нават з суседніх дзяржаў.

Нягледзячы на тое, што яшчэ наперадзе шмат працы, мы шчыра ўдзячныя ксяндзу Яцэку Хутману, які не толькі арганізаваў працу, але і сам шчыраваў на могільніку. Таксама сардэчна дзякуем усім, хто аказаў матэрыяльную дапамогу, хто не пашкадаваў свайго асабістага часу на працу па навядзенні парадку, хто прычыніўся да гэтай вялікай справы. Жадаем вам моцнага здароўя і Боскай апекі.

*З вялікай удзячнасцю сям'я Пяткевіч, в. Каралінова*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

Заснавальнік:
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

Выдавец:
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Карэктары: Юрась Бабіч, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 9299

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 12.12.2011 г. у 21.19

Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ